© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

Наш адрас у Інтэрнэце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
20 верасня 2001 г.
№ 38 (534)
Кошт 115 рублёў

**Папярэднія два нумары ПАГОНІ былі арыштаваныя пракуратурай. Улада нібыта знайшла ў газеце паклёп на Лукашэнку. У чым выявіўся гэты паклёп, нам не паведамілі. Гэта, аднак, не перашкодзіла пракуратуры канфіскаваць усе кампутары ў рэдакцыі, а неўзабаве, нашыя грошы на рахунку ў друкарні і паперу на складзе...**

**Калі вы чытаеце гэтыя радкі, значыць, журналісты ПАГОНІ змаглі пераадолець усе тыя паскудствы, якія «падсунула» нам вертыкальная ўлада. Разам з тым, мы разумеем, што так званыя праваахоўныя органы, якія спрабуюць заткнуць нам рот, гэта ўсяго толькі выканаўцы палітычнай замовы. Ці выстаім мы ў гэтай няроўнай барацьбе? Адказ на гэтае пытанне будзе залежаць таксама ад вашай рэакцыі, паважаныя чытачы, ад таго, наколькі адэкватна адрэагуюць на гэтае дзікунства людзі добрай волі з усяго свету.**

**Са свайго боку мы прыкладзем усе намаганні, каб ПАГОНЯ і надалей несла беларусам словы праўды.**

## Скончыліся выбары, святло і цяпло

**Ацяпляльны сезон сёлета распачнецца пасля таго, як на вуліцы на працягу тыдня пратрымаецца тэмпература не больш за пяць градусаў. Гэта вынікае з рэкамендацыі, якая была распаўсюджана Гарадзенскім аблвыканкамам па структурных падраздзяленнях жыллёва-камунальнай гаспадаркі вобласці.**

Неабходнасць зніжэння планкі ўключэння ацяплення на тры градусы ніжэй, чым гэта прадугледжана санітарнымі нормамі, прадыктавана абмежаваннем паставак у рэспубліку энерганосьбітаў.

З гэтай жа прычыны рэкамендуецца знізіць падачу гарачай вады да трох разоў у тыдзень, увесці «веернае» адключэнне электраэнергіі ў камунальна-бытавым сектары. Аўтааматары сутыкнуцца з падзабытым дэфіцытам бензіну, таму што плануецца скарачэнне ўжывання светлых нафтапрадуктаў. Грамадзянам, якія прызвычаіліся ацяпляць свае дамы вуглём і мазутам, давядзецца перайсці на торф і дровы, бо рэкамендавана замяшчэнне імпартуемага мясцовымі гатункамі паліва.

На тле пераліченых мерапрыемстваў прапанаванае «адключэнне прытокавай вентыляцыі ў непрамысловых будынках» здаецца дзіцячай забавай, як і «адключэнне вулічнага асвятлення, светлавой рэкламы ў гарадах і пасёлках» у масштабах «ад 25 да 30 адсоткаў».

Калі верыць паведамленням дзяржаўных СМІ, беларускі народ перажывае стан эйфарыі ў сувязі з перамогай Аляксандра Лукашэнкі. Радасць, аднак, працягнецца нядоўга - наперадзе зіма.

**Анджэй Пісальнік**

## Сякерай у цемя

**Некалькі разоў апусціла сякеру на галаву свайго мужа 27-гадовая жыхарка вёскі Гіркі Воранаўскага раёна. Гэта былі яе галоўныя і апошнія аргументы ў сямейнай сварцы, якая ўзнікла 18 верасня, каля 2-й гадзіны ночы.**

36-гадовы трактарыст мясцовага калгаса «Зара» памёр адразу. Пасля гэтага «любая» спакойна вынесла труп за суседнюю краму.

**Павал Мажэйка**




**21-22 верасня** - воблачна, з праясненнямі, месцамі - дажджы. Вецер паўднёвы, 4-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы +10...+15, удзень +14...+19.

# Пашкевіча прызначылі на «хлебнае» месца

**На гэтым тыдні Гарадзенскі гарвыканкам застаўся без старшыні. Учора а 14-й гадзіне адбылося развітанне работнікаў гэтай установы з цяпер ужо былым кіраўніком гарадской «вертыкалі» Анатолем Міхайлавічам Пашкевічам. У гэты ж дзень экс-старшыня гарвыканкама быў прадстаўлены ў якасці дырэктара калектыву абласнога аб'яднання «Гроднахлебпрам».**

Гэтай адстаўкі чакалі даўно. Яшчэ ў пачатку года па гораду паўзлі чуткі, што Анатоль Міхайлавіч не сышоўся характарам з тады яшчэ першым намеснікам старшыні аблвыканкама Уладзімірам Саўчанкам. Чуткі ўзмацніліся пасля раптоўнай смерці Аляксандра Дубко і няўдалай спробы Пашкевіча заняць месца старшыні аблвыканкама. Вобласць тым часам узначаліў магілёўскі вылучэнец кіраўніка дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка патлумачыў свой выбар тым, што яму стала вядома пра непамернае багацце некаторых гарадзенскіх чыноўнікаў, якія прэтэндавалі на першую пасаду ў вобласці. Гэтую заяву кіраўніка дзяржавы шмат хто ўспрыняў як вырак Пашкевічу. Аднак адстаўка адбылася толькі зараз, прычым без выкрыцця ў карупцыі і бразгання кайданкамі.



Анатоль Пашкевіч

Існуе меркаванне, што Анатоль Міхайлавіч заслужыў літасць гасудараву, забяспечыўшы станоўчы для Лукашэнкі вынік галасавання на выбарах у апазіцыйна настроеным Гродне. Невыпадкова крыніца з атачэння Пашкевіча выказала ў гутарцы з карэспандэнтам ПАГОНІ думку, што разжалаванне старшыні гарвыканкама ў дырэктара - «не самы горшы варыянт, магло быць і горай».

Сапраўды, калі б Лукашэнка захацеў выкарыстаць інфармацыю, якую нібыта меў Шэйман наконт вытокаў даходаў гарадзенскага галавы, то адстаўка Пашкевіча магла б выглядаць куды больш непрывабнай. Але ў Беларусі такія выпадкі з лаяльнымі кіраўнікамі - рэдкасць. І, як правіла, чым болей кампрамату супраць «вертыкальшчыка», тым больш заўзята ён выслужваецца перад кіраўніком дзяржавы. Пашкевіч - не выключэнне. Дастаткова ўзгадаць хаця б яго абяцанне «пераламаць хрыбет апазіцыі» альбо публічны выхад з прафсаюзаў, не кажучы ўжо пра адносіны да незалежных журналістаў, працу якіх Анатоль Міхайлавіч ацэньваў іншым разам у форме пагрозаў з выкарыстаннем мацюкоў...

І ўсё-такі для многіх адыход Пашкевіча стаў нечаканасцю. Нават для старшыні Гарадзенскага гарадскога савета дэпутатаў Фёдара Гудзея, які сказаў карэспандэнту ПАГОНІ наступнае:

- Праца з Анатолем Міхайлавічам мяне задавальняла. Ён заўсёды прынцыпова падыходзіў да рашэння пытання і вельмі шмат добрага зрабіў для горада.

Кіраўнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі аблвыканкама Уладзімір Амелька заявіў карэспандэнту ПАГОНІ, што паводле ягонай інфармацыі, Пашкевіч застанецца старшынём гарвыканкама яшчэ, як мінімум, месяц. «На выканкаме пытанне наконт адстаўкі не абмяркоўвалася. Сам Пашкевіч у адпачынку, і наўрад ці нехта прыняў бы такое рашэнне ў яго адсутнасць», - не мог даўмецца Амелька. Як бачым - прынялі.

З урачыстага дня Анатоль Міхайлавіч пачаў асвойваць новую для сябе прафесію. Справа ў тым, што па адукацыі ён - інжынер-тэхнолаг у галіне лёгкай прамысловасці, і пра вытворчасць хлеба мае даволі дылетанцкае паняцце. Аднак намеснік дырэктара «Гроднахлебпрама» Валянціна Лашкова верыць, што Пашкевіч са сваімі новымі абавязкамі справіцца: «У яго падначаленні будуць спецыялісты і чатыры намеснікі». На пытанне карэспандэнта ПАГОНІ - які настрой пануе ў калектыве ў сувязі з прыходам новага кіраўніка - Валянціна Лашкова адказала:

- Мы прызвычаіліся да таго, што Пашкевіч выклікае нас і прад'яўляе прэтэнзіі па працы нашых заводаў, таму шмат хто асцерагаецца яго.

Аднак падставаў для асцярогі зараз болей у самога Пашкевіча. Уяўляеце, як няёмка яму будзе хадзіць у гарвыканкам і выслухоўваць прэтэнзіі ад новага старшыні? У тым, што прэтэнзіі будуць, сумнявацца не даводзіцца. Многія хлебазаводы месяцамі не атрымліваюць грошы за рэалізаваную прадукцыю. Рэнтабельнасць прадпрыемстваў у лепшым выпадку складае шэсць-сем працэнтаў, а дзе-нідзе яна нават мінусавая. Яшчэ ў гэтым годзе Анатолю Пашкевічу давядзецца падвысіць кошты на хлеб. Справа ў тым, што з новага года з-за перадвыбарнай паказухі кошты на асноўны прадукт харчавання гарадзенскіх пенсіянераў не падвышаліся ні разу. Увогуле, месца дасталося Анатолю Міхайлавічу хоць і «хлебнае», але стаць на ім ахвярным казлом - прасцей за простае. Адзіная ўцеха - заробак каля 250 тысяч плюс надбаўкі.

І яшчэ адна рэфлексія. У гэтым годзе на Гарадзеншчыне змяніліся два ключавыя «вертыкальшчыкі». Саўчанка, падобна Лукашэнку, які пасля выбараў правёў кадравыяператасоўкі ў сваёй адміністрацыі, пачаў будаваць «вертыкаль» Гарадзеншчыны пад сябе. Шырокай грамадскасці пакуль невядома, хто «сядзе» на Гродна замест Пашкевіча. Намеснік Саўчанкі Мікалай Прысада, які курыруе кадравую палітыку, на пытанне карэспандэнта ПАГОНІ наконт будучага старшыні гарвыканкама адказаў: «Ведаю - хто, але сказаць не магу, бо «зачацце» яшчэ не адбылося».

**Анджэй Пісальнік**

## Еўрарэгіён не вабіць

**Усяго тры дзяржаўныя прадпрыемствы Гарадзенскай вобласці далі згоду на ўдзел у выставе-кірмашы «Еўрарэгіён «Нёман-2001», якая павінна адбыцца напачатку наступнага месяца.**

Спіс усіх удзельнікаў выставы будзе складзены заўтра, 21 верасня, на падставе пададзеных заяваў. У іх лік павінны ўвайсці і недзяржаўныя прадпрыемствы нашай вобласці, якім былі разасланыя запрашальныя квіткі.

Месцам правядзення выставы выбраны Палац культуры хімікаў, дзе будуць размешчаныя 50 пляцовак. Каля пляцовак будзе выстаўленая сельскагаспадарчая тэхніка.

**Язэп Баршчэўскі**

## Малярыя ў Гродне

**Жыхар Воранаўскага раёна захварэў на малярыю. У гэтым годзе гэта ўжо другі хворы на гэтую небяспечную хваробу, выяўлены ў Гарадзенскай вобласці.**

Аднак спецыялісты Гарадзенскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі запэўніваюць, што прынялі неабходныя меры па прафілактыцы распаўсюджвання малярыі, і інфекцыя гараджанам не пагражае.

Першым хворым быў азербайджанец, які гандляваў у Гродне. Ён быў накіраваны на лячэнне ў Гарадзенскую абласную бальніцу.

Адметнасць другога выпадку захворвання на малярыю, са словаў загадчыка аддзялення паразіталогіі ды медычнай энтамалогіі Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Андрэя Ведзянькова, у тым, што хвароба была завезеная да нас з Маскоўскай вобласці - рэгіёну, які не ўваходзіць у лік праблемных. Справа ў тым, што жыхар Воранаўскага раёна, які накіраваўся ў Падмаскоўе на заробкі - будаваць дамы, як высветлілася, жыў разам з таджыкамі. А малярыя ў асноўным завозіцца да нас з паўднёвых раёнаў СНД - Азербайджана, Таджыкістана, Казахстана і Узбекістана, а таксама з іншых краінаў Азіі ды Афрыкі. Паколькі пералівання крыві воранавец у Падмаскоўі не рабіў, то інфекцыя перадалася яму, хутчэй за ўсё, праз укус камара. Недамаганне ён адчуў яшчэ ў Падмаскоўі, але вырашыў вярнуцца ра радзіму. Тут яго, як і першага хворага, адправілі ў абласны шпіталь. У яго выявілі адзін з чатырох відаў малярыі - трапічны, на шчасце, не самы небяспечны. На дадзены момант здароўе воранаўца прыйшло ў норму.

Усе інфекцыйныя службы краіны ў сувязі з гэтым выпадкам распачнуць больш уважлівую праверку грамадзянаў, якія вяртаюцца з краінаў, неблаганадзейных па эпідэмічных паказчыках, а таксама з Расеі ды Украіны.

**Алеся Сідлярэвіч**

## Лялькі пачынаюць сезон

**У нядзелю, 23 верасня, Гарадзенскі абласны тэатр лялек адкрые свой 21-ы тэатральны сезон.**

А 12-й гадзіне юныя гледачы сустрэнуцца з казачнымі героямі з экзатычнай Японіі ў спектаклі «Поўня на галінцы». Дарослых тэатралаў а 19-й чакае прэм'ера - камедыя Вільяма Шэкспіра «Сон у летнюю ноч». Гэты спектакль гарадзенскія артысты-лялечнікі на мінулым тыдні з поспехам паказвалі на Міжнародным тэатральным фестывалі ў Разані.

**Адам Гонар**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Чаму арыштавалі ПАГОНЮ?

**Два нумары ПАГОНІ запар - № 36 і № 37 - арыштаваныя пракуратурай проста ў друкарскім цэху. Відавочна, што гэтыя дзеянні былі абсалютна не патрэбныя дзеля следства па факту паклёпу на Лукашэнку, які нібыта меў месца ў нашай газеце. Дык чаму ж усё-такі арыштавалі ПАГОНЮ? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да нашых калег - журналістаў. Вось якія адказы мы атрымалі ад людзей, якія добра ведаюць, што такое журналісцкая праца.**



__Наталля Макушына__, **«Новый век»:**

- Улада дзейнічае метадамі 37-га года былога стагоддзя і тым самым яшчэ раз паказвае сваю маральную пачварнасць. Менавіта пра яе гаварыла сваім чытачам ПАГОНЯ ўсе дзесяць гадоў працы. Такая ўлада не мае права на існаванне.



__Алена Раўбецкая__, **«Біржа інфармацыі»:**

- Як назваць тое, што адбылося з ПАГОНЯЙ? Свінства, сапраўднае беспрэцэдэнтнае свінства. Знішчаецца наклад газеты, якая яшчэ не пабачыла свет, дакладней 1/8 частка накладу. Распачынаецца крымінальная справа па факту... Па якому, уласна кажучы, факту? Газета яшчэ не дайшла да чытачоў - гэта значыць, з'яўляецца паўфабрыкатам. І гэта ў той самы дзень, калі да бессаромнасці расфарбаваная «Советской Белоруссией» закідваюцца кватэры мірных жыхароў - па два-тры паасобнікі ў адну паштовую скрыню. Мяркую, што 80 тысяч накладу ПАГОНІ, якім планавалася выдаць апошні перадвыбарны нумар, і з'явіліся галоўнай прычынай так званай «крымінальнай справы». Карацей, у мяне адна выснова - у нас, журналістаў, ёсць маленькая армія - трыццаць тры літары алфавіта. І гэтыя літаркі, складзеныя ў праўдзівыя словы, уяўляюць такую пагрозу рэжыму, што на рэдакцыю гатовыя кінуцца ўсе: і пракуратуры, і МУС, і КГБ, і АМАП, і спецназ, і кожная гаўкліва кудла. Баяцца - значыць, паважаюць... Трымайся, ПАГОНЯ! У цябе ёсць тысячы чытачоў і шмат калег і таварышаў.



__Сяргей Астраўцоў__, **Радыё Свабода:**

- Як вядома, каляровая «Советская Белоруссия», прысвечаная Лукашэнку, была запхнута літаральна ў кожную паштовую скрынку. Заснавальнікам «СБ», як зазначана, з'яўляецца сама адміністрацыя Лукашэнкі. Значыць, усё, напісанае ў ёй пра Рыгоравіча, - эталон.

Дзве кабеткі ў спецвыпуску «СБ» вальяжна разважалі пра ідэальнасць Лукашэнкі. «Палітычная харызма Рыгоравіча», - гаворыць адна, - гэта як «боінг шэсцьсот другі». Другая падтаквае: «Альбо як «лётаючая крэпасць». Ці нават гэта: як дзве «лётаючыя крэпасці» адну на другую паставіць і пару хмарачосаў зверху».

Мне сёння падумалася: а ці не ўчарашнія боінгі - лётаючыя крэпасці - і нью-ёркскія хмарачосы мелі на ўвазе «савецка-беларускія кабеткі»? І яшчэ: калі б ПАГОНЯ параўнала Рыгоравіча з хрушчоўкамі, пастаўленымі адна на адну, або вакзалам, пасаджаным зверху на «Палац рэспублікі», - яе таксама выпусцілі б у каляровым варыянце? Ці ўсё ж арыштавалі б у друкарні - за «паклёп»?

* * *

**На 27 верасня суддзя Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь В.Жандараў прызначыў судовае пасяджэнне, на якім будзе разгледжана справа аб закрыцці ПАГОНІ. Справа распачатая ў адпаведнасці са спазыскам Пракурора Гарадзенскай вобласці ў інтарэсах дзяржавы ў асобе Дзяржаўнага камітэта РБ па друку.**

**Як вынікае са спазыску, накіраванага ў Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусі намеснікам пракурора Гарадзенскай вобласці старшым саветнікам юстыцыі Яўгенам Труцько, пракуратура просіць спыніць дзейнасць газеты ПАГОНЯ і ліквідаваць рэдакцыю газеты.**

**Паводле спазысковай заявы, Пракуратура Гарадзенскай вобласці кіруецца тым, «што з боку рэдакцыі газеты ПАГОНЯ мелі месца шматлікія на працягу аднаго года парушэнні патрабаванняў артыкула нумар 5 Закону «Аб друку».**

**Мы, са свайго боку, расцэньваем дзеянні пракуратуры як беспадстаўныя, якія не маюць нічога агульнага з заканадаўствам. На працягу бягучага года ПАГОНІ Дзяржкамдрукам было вынесена толькі адно папярэджанне, што дакументальна зафіксавана. Таму ніякіх размоваў пра быццам бы шматлікія парушэнні весціся не можа.**

**Справа, распачатая супраць ПАГОНІ, выключна палітычная. Усе абвінавачванні супраць ПАГОНІ высмактаныя з пракурорскага пальца.**

# Наезд на «Свободные новости»

18 верасня асноўны ўладальнік акцыяў беларускага штотыднёвіка «Свободные новости» Сяргей Атрошчанка заявіў аб прыпыненні выпуску выдання і звальненні яго галоўнага рэдактара Аляксандра Уліцёнка. Як паведаміў Аляксандр Уліцёнак, гэтае паведамленне Атрошчанка даслаў па факсе. Спробы звязацца з ім па тэлефоне, у тым ліку мабільным, поспеху не мелі. «Рашэнне Атрошчанкі мы расцэньваем як незаконнае, - заявіў Уліцёнак. - Перад тым як зрабіць такі крок, ён павінен быў хаця б параіцца з іншымі заснавальнікамі - мною і двума маімі намеснікамі.

**Дзмітрый Уласаў**

# Рэпрэсіі супраць лідара гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту

**Кіраўніцтва Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы адлічыла старшыню Гарадзенскага Маладога Фронту Вадзіма Саранчукова з юрыдычнага факультэта пасля заканчэння ім чацвёртага курса.**

- У нашым універсітэце ты вучыцца ўжо не будзеш,- заявіў Вадзіму дэкан юрфака Іосіф Вялента.

Нягледзячы на тое, што Вадзім Саранчукоў здаў апошнюю сесію з сярэднім балам 4,7, пятага ліпеня 2001 года была выдадзеная пастанова аб ягоным адлічэнні. У ёй гаворыцца, што падставай адлічэння сталі «неаднаразовыя правапарушэнні», учыненыя Вадзімам. А менавіта, як патлумачылі яму, суды за арганізацыю несанкцыянаваных апазіцыйных пікетаў і шэсцяў. У аднаўленні ва універсітэце Вадзіму адмовілі.

- Я заўсёды меў добрыя стасункі з выкладчыкамі і здаваў сесію пераважна з выдатнымі адзнакамі. Мяне выгналі толькі за тое, што я выступаю супраць Лукашэнкі, - лічыць Вадзім. - Я кансультаваўся з адвакатам універсітэта. Мае «неаднаразовыя правапарушэнні» падвялі пад пункт універсітэцкага Статута, дзе гаворыцца, што можна адлічыць за здзяйсненне ўчынкаў, несумяшчальных з гонарам студэнта.

**Алеся Сідлярэвіч**



**16 верасня споўнілася роўна два гады, як пры нявысветленых абставінах знік палітычны апанент Аляксандра Лукашэнкі Віктар Ганчар, а таксама ягоны сябра Анатоль Красоўскі. Многія звязваюць іх знікненне з дзеяннямі эскадрона смерці. Улада, аднак, нічога дагэтуль не зрабіла, каб пацвердзіць ці абвергнуць гэтую інфармацыю. Чаму?**

# Сябры - ізгоі

**Дагэтуль прызнанне Захадам прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі залежала ад выканання пры іх арганізацыі ды правядзенні міжнародных стандартаў. Аднак пасля трагічных падзеяў у ЗША 11 верасня сітуацыя змянілася. Цяпер галоўным крытэрыем ацэнкі тых ці іншых рэжымаў і лідараў можа стаць узровень іх супрацоўніцтва з краінамі, якія падтрымліваюць міжнародны тэрарызм.**

Прэзідэнт Лукашэнка, рэагуючы на падзеі ў ЗША, не абмежаваўся толькі выказваннем спачування амерыканскаму народу. У ягоных дзеяннях назіралася імкненне ідэнтыфікаваць Беларусь з краінамі, над якімі навісла пагроза тэрору. Таму прэзідэнт увёў дадатковае патруляванне на вуліцах гарадоў Беларусі і нават дазволіў выкарыстоўваць для гэтага беларускіх вайскоўцаў. Апрача таго, па ягонай камандзе міністр абароны чамусьці адбыў у штаб супрацьпаветранай абароны, дзе будзе знаходзіцца да «асобых распараджэнняў» кіраўніка дзяржавы. Спецслужбы краіны распачалі спецмерапрыемствы «па забеспячэнню бяспекі грамадзянаў Беларусі».

Меры, трэба сказаць, абсалютна неапраўданыя, калі ўлічыць, што ў дачыненні да тэракту падазраюцца прыязныя беларускаму рэжыму краіны. Напрыклад, Лівія, Ірак, Іран ды іншыя. А калі верыць таму, пра што пішуць ужо некалькі гадоў СМІ ўсяго свету (маецца на ўвазе продаж Беларуссю зброі непрыязным ЗША рэжымам), то дзеянні беларускага галоўнакамандуючага варта расцаніць як элементарную крывадушнасць.

Менавіта так шматлікія назіральнікі схільныя вызначаць дзеянні сяброў-ізгоеў беларускага прэзідэнта. Гэта і Ясір Арафат, які, спрабуючы згладзіць уражанне ад трыумфавання палестынцаў наконт амерыканскай трагедыі, публічна здаў кроў на карысць пацярпелых. Гэта і Муамар Кадафі, які асудзіў тэракт і выказаў спачуванні амерыканскаму народу. Далей усіх, пэўна, пайшоў Пакістан, які заявіў пра жаданне супрацоўніцтва з ЗША ў ліквідацыі тэрарыстаў.

Зрэшты, спектакль салідарнасці з амерыканцамі ў Беларусі працягваўся нядоўга. Ужо 14 верасня Аляксандр Лукашэнка прыняў у сваёй рабочай рэзідэнцыі старшыню Вышэйшага савета абароны Лівіі Абу Бакра Юніса Джабера, з якім абмеркаваў пытанні супрацоўніцтва «ў гандлёва-эканамічнай і навуковай сферы». Наўрад ці лівійскага міністра абароны цікавіла магчымасць выкарыстання ў войску Кадафі мірных беларускіх трактароў...

Тым часам большасць экспертаў, якія ацэньваюць прычыны трагедыі, схільныя да меркавання, што тэракт не мог быць падрыхтаваны і здзейснены без падтрымкі дзяржаваў, якія валодаюць тэхнічным і навуковым патэнцыялам. Але, не будзем думаць пра горшае.

Беларускае тэлебачанне ў шматлікіх аналітычных праграмах спрабуе навязаць думку пра тое, што ЗША самі сабе вінаватыя. Усталявалі, маўляў, свой аднапалярны сусветны парадак, вось і расхлёбваюць за «ролю сусветнага жандара». Адпаведна гэтай логіцы, нам давядзецца расхлёбваць за ролю сусветнага ізгоя разам з непрызнаным прэзідэнтам і ягонымі сябрамі - Муамарам, Садамам, Ясірам...

**Анджэй Пісальнік**

# Вярніце галасы «супраць»!

**Нягледзячы на тое, што выбары Прэзідэнта Беларусі сталі ўжо гісторыяй, факты пра дзіўныя вынікі галасавання працягваюць вылазіць наверх.**

**Вось што распавёў ПАГОНІ Юрый Качук, жыхар Зэльвы.**

На Зэльвенскім Пушкінскім выбарчым участку N28 з 2600 тых, хто прагаласаваў, выбарчая камісія не зафіксавала ніводнага голасу «супраць усіх кандыдатаў». Гэта пацвердзіў і Ігар Панасік, назіральнік ад «Волі да развіцця» на гэтым участку.

Паводле словаў Юрыя Качука, ён і ягоная сям'я, якія галасуюць на 28 участку, аддалі свае галасы супраць усіх кандыдатаў. З дапамогай тэлефона нам удалося з лёгкасцю знайсці яшчэ, па меншай меры, 12 чалавек, якія на гэтым участку галасавалі супраць усіх. Куды падзеліся гэтыя галасы?

Афіцыйныя лічбы на 28 участку наступныя: Аляксандр Лукашэнка - 1962 галасы «ЗА», Уладзімір Ганчарык - 195, Гайдукевіч - 69.

**Павал Мажэйка**

# Хто выкінуў бюлетэні?

**У Баранавічах на сьметніку журналісты знайшлі выбарчыя бюлетэні.**

У панядзелак, 17 верасьня, журналісты баранавіцкай газэты «Інтэр-экспрэс» у адным зь мікраёнаў, каля гаражоў знайшлі раскіданыя выбарчыя бюлетэні, якія выкарыстоўваліся падчас выбараў прэзыдэнта Беларусі. Іх аказалася больш за сотню. Старшыня гарадзкой выбарчай камісіі Міхаіл Якшук патлумачыў знаходку нечакана:

- Гэта вашыя апазыцыянэры не апускалі бюлетэні ў скрыні, а выносілі іх з участкаў, каб справакаваць тое, што адбылося сёньня.

Розьніца паміж выдадзенымі выбаршчыкам бюлетэнямі ды вынятымі са скрыняў і падлічанымі камісіяй склала 29. Атрымліваецца, што толькі 29 асобаў пакінулі сабе на памяць бюлетэні падчас галасаваньня. Чаму ж каля гаражоў іх знайшлі больш за сотню?

**Алесь Белы**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



ГРАМАДСТВА

## Новы год семінарыі

**Васемнаццаць хлопцаў у гэтым годзе сталі студэнтамі Гарадзенскай Каталіцкай духоўнай семінарыі. Амаль усе сёлетнія першакурснікі пераважна з Гарадзеншчыны, а не з усяе Беларусі, як было раней. Гэта звязана з тым, што ў Пінску распачала працу другая ў краіне навучальная ўстанова для каталіцкіх ксяндзоў.**

Усяго на сённяшні дзень у Гарадзенскай семінарыі навучаецца каля 90 чалавек. Гэтая вышэйшая навучальная ўстанова розніцца ад астатніх тым, што мае толькі адзін факультэт - філасофска-тэалагічны. Студэнты тут выключна хлопцы. На працягу шасці гадоў навучання яны жывуць у будынку семінарыі, што знаходзіцца пры Пабернардынскім касцёле, і вывучаюць метафізіку, філасофію, тэалогію, а таксама мовы - беларускую, польскую, ангельскую, лацінскую, грэчаскую. Выкладаюць семінарыстам прафесары, пераважна з суседняй Польшчы.

Па заканчэнні семінарыі ўсіх студэнтаў чакае размеркаванне, як правіла, у беларускія касцёлы. Практыка паказвае, што без працы не застаецца ніхто.

Гарадзенская каталіцкая духоўная семінарыя пачне заняткі з трэцяга кастрычніка.

**Юлія Дарашкевіч**

## Адзначылі Рош Ашана

**Пачатак 5762 года адзначалі з 18-га на 19-е верасня гарадзенскія яўрэі. Абавязковым элементам святочнага стала былі дзве халы - круглы хлеб, дзеля таго, каб новы год быў, як той казаў, без сучка і задзірынкі.**

Яўрэйскі Новы год, ці Рош Ашана, як гэта гучыць на іўрыце, значна адрозніваецца ад хмяльнога і застольнага хрысціянскага. Як патлумачыў ПАГОНІ **Рыгор Хасід, старшыня «Аб'яднання яўрэйскай культуры»**, адзначэнне Рош Ашана пачынаецца яшчэ за месяц да свята:

*- На працягу гэтага часу кожны павінен азірнуцца назад, адсачыць сваё жыццё, ацаніць зробленае. Калі ты пакрыўдзіў кагосьці з людзей, дык павінен зрабіць усё, каб выправіць свае крыўды. Бог не даруе, калі не даруе чалавек, якога ты пакрыўдзіў. Тысячы малітваў не заменяць добрых словаў.*

Выпраўленне памылак і нанесеных крыўдаў, расказаў ПАГОНІ Рыгор Хасід, адбываецца ў чатыры этапы. Першыя тры разы трэба спрабаваць атрымаць дараванні ад чалавека, якога пакрыўдзіў, і толькі потым звяртацца да Бога.

Акрамя ўзгаданай халы, на Новы год яўрэі ядуць мёд, каб год быў салодкі, яблыкі ў мёдзе, а таксама гранаты, дзеля таго, каб год быў такім жа пладавітым, як і зернейкі ў гранаце. Ядуць таксама і рыбу, але ў Новы год на стол пажадана паклацці рыбіну галаву.

65 сябраў гарадзенскага «Аб'яднання яўрэйскай культуры», якія сабраліся 18 верасня на святкаванні Рош Ашана, размаўлялі пра свае традыцыі ды перспектывы, слухалі філасофскія прытчы.

У Новы год, паводле яўрэйскіх паданняў, Бог заносіць імя кожнага чалавека ў «кнігу жыцця» альбо ў «кнігу смерці».

**Павал Мажэйка**

**Зміцер, гэтыя паўтара месяца, якія ты вымушана правядзеш у не самым жаданым месцы, не будуць для цябе сумнымі! Трымайся! І не дрыгайся! Твая нага нам абавязкова спатрэбіцца.**

**Сябры**

# Еўропа вернецца ў Гродна?

**Бліжэйшым часам будзе прыбрана драўляная агароджа вакол будынка, што знаходзіцца на рагу вуліцаў Віленскай і Савецкай. За гэтым плотам, які не адзін год перашкаджаў прахожым і аўтатранспарту, у будынку, які з'яўляецца гістарычным помнікам адкрыецца шыкоўны гатэль. Плануецца, што ён будзе адпавядаць сучасным еўрапейскім стандартам.**

Гэты будынак знаходзіўся на капітальным рамонце з 80-х гадоў. З красавіка гэтага года за рэканструкцыю ўзяўся новы ўладальнік, турыстычная фірма «Алатан-тур». Да канца лістапада плануецца скончыць вонкавае аздабленне, а ў верасні 2002 года ў новы гатэль засяляцца новыя кліенты.

Будынак з'яўляецца гістарычным і ахоўваецца дзяржавай. Менавіта таму новыя ўладальнікі захаваюць знешні выгляд гатэля такім, якім ён быў ад пачатку свайго існавання. Праўда, зверху будзе прыбудаваная мансарда, якой не было раней, - там размесціцца паверх «эканомкласа».

У сутарэннях будзе бар кшталту ангельскага паба. На першым паверсе - рэстарацыя. Мяркуецца, што кухня будзе адпавядаць гастранамічнай культуры Беларусі, Польшчы і Літвы.

*- Там вам не пададуць танную травяную гарбату,* - **абяцае Мікалай Братанюк, дырэктар гарадзенскай філіі «Алатан-тура».** *- Ежа задаволіць нават гурманаў. У гэтую рэстарацыю будзе не сорамна запрасіць і дзелавога партнёра, і іншаземца.*

Астатнія паверхі зойме гатэль «еўрапейскага кшталту». Персанал будзе падбірацца адпаведны, выхаваны, з абавязковым веданнем як мінімум дзвюх замежных моваў.

Гістарычныя дакументы захавалі да нашых дзён год узвядзення будынка - 1898. З пачатку XX стагоддзя ў ім месціўся гатэль «Камерцыйны» з рэстарацыяй. З таго часу будынак шматкроць мяняў уладальнікаў, але ягонае прызначэнне заставалася тым жа.

Краязнаўца Алесь Госцеў мяркуе, што ў міжваенны час гатэль называўся «Еўропа», і яго магчымым уладальнікам быў Карл Олеша, бацька аўтара знакамітай казкі «Тры таўстуны».

З сярэдзіны 70-х гадоў на першым паверсе будынка існавала рэстарацыя «Беласток», славутая сваёй смачнай кухняй. Магчыма, менавіта гэтую назву і захаваюць новыя ўладальнікі будынка.

**Юлія Дарашкевіч**

# Амерыканская трагедыя ў Беларусі немагчымая

**Спецмеры па ўзмацненню паветранай бяспекі прынятыя ў Гарадзенскім аэрапорце з сувязі з тэрактамі ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Падвышаны кантроль тэхнікі, багажу і асабісты агляд пасажыраў. На час палёту нельга мець пры сабе металічныя, цяжкія і вострыя рэчы. З персаналам аэрапарта праводзяцца дадатковыя заняткі ды інструктажы. У штаце гарадзенскага аэрапорта 16 дыспетчараў. На змену заступаюць адначасова па тры чалавекі. Кожны раз перад пачаткам працы ім даюць адмысловыя інструкцыі. Усе гэтыя меры праводзяцца паводле ўказання Дзяржаўнага Камітэта па авіяцыі Рэспублікі Беларусь адносна пытанняў бяспекі ды кантролю за паветраным рухам, выдадзеным 12 верасня, на наступны дзень пасля амерыканскай трагедыі.

*- На занятках праігрываюцца магчымыя варыянты ўчынення ў нас тэрарыстычных актаў, падобных да амерыканскім... Але ў межах Беларусі такое немагчыма,* - **лічыць дырэктар гарадзенскага аэрапорта Алег Качалаў.**

Кіраўніцтва Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Рэспублікі Беларусь таксама лічыць, што наша сістэма авіябяспекі больш надзейная за амерыканскую. Кабіна пілотаў, напрыклад, зачыненая браніраванымі дзвярыма, і ніхто чужы не можа туды зайсці. Нават сцюардэса тэлефануе і папярэджвае пра свой прыход.

Тым не менш адпаведныя спецмеры супраць тэрарызму праводзяцца. Апроч пералічаных, ёсць яшчэ і шэраг засакрэчаных мерапрыемстваў.

**Алеся Сідлярэвіч**



**Каля 50 чалавек прыйшлі ўвечары 13 верасня да Кафедральнага сабора ў цэнтры Менска, каб са свечкамі ў руках аддаць даніну памяці ахвярам тэракту ў ЗША. Гэтае ж месца наведаў амерыканскі амбасадар Майкл Козак, які выказаў удзячнасць за спачуванне**

# Глядзіце, што «вырасла»...

**...Яшчэ ў эпоху стабільнага развітага сацыялізму быў пабудаваны мікрараён па вуліцы Шчорса. Што патрэбна чалавеку для жыцця? Не так ужо і шмат. Па-першае, стабільны заробак (на ўзроўні 250 даляраў) - для таго, каб працавала вытворчасць і быў збыт прадукцыі, каб было, нарэшце, абарачэнне: грошы-тавар-грошы (з прыбыткам), каб усе людзі, незалежна ад рабочага месца, атрымлівалі зарплату своечасова і ў неабходнай для жыцця колькасці. Па-другое, асобная кватэра (зараз гэта - завоблачная мара, бо няма ў чэсных людзей столькі грошай), якія ў жахлівых умовах радыяцыі - а гэта: лейкемія, рак шчытападобнай залозы, рак стрававода, рак лёгкіх, рак, рак, рак,.. смяротнасць - маглі б ужо і бясплатна раздаваць памірающчай нацыі! Гэта свайго роду блюзнерства - браць грошы з нябожчыка! Па-трэцяе, калі казаць пра здароўе, - трэба, каб побач была школа, дзіцячы садок і паліклініка.**

Колькі тут жыву, столькі і памятаю праблему з паліклінікай. Спачатку ганялі нас у паліклініку N1 (блізу стадыёна), стаматалагічная была ў раёне чыгуначнага вакзала. Потым пабудавалі паліклініку N3 на вуліцы Пестрака (таксама няблізкі свет). Хаця паліклініка N2 знаходзіцца па вуліцы Гагарына - здаецца, чаму б не «перанесці» нас туды? Хворых дзяцей возім са Шчорса на Астроўскага! Дзе ж клопат пра людзей, клопат пра дзяцей!? Але гэта яшчэ «кветачкі». Потым забудавалі мікрараён «Вішнявец» і сумежныя тэрыторыі (перасяленцы з пацярпелых раёнаў і не толькі), усе хворыя - у паліклініку N3!

...Не так даўно ў нашым мікрараёне пачалося будаўніцтва псіханеўралагічнага шпіталя...

Усе хворыя людзі (не псіхічна хворыя) з надзеяй глядзелі на ўзводзімыя карпусы: а мо і для нас, нармальных, пабудуюць якую-небудзь паліклініку? Я не вытрымаў і патэлефанаваў у гарадскі аддзел аховы здароўя. Там паведамілі, што ніякіх планаў наконт будаўніцтва паліклінікі для «нармальных» няма. Сродкі на будаўніцтва выдаткоўваюцца з рэспубліканскага бюджэту...

Нікому мы хворыя не патрэбныя, апроч як статыстычнаму ўпраўленню якой-небудзь дзяржавы, што вывучае выжыванні чалавека во ўмовах ядзернай вайны.

Але вернемся да старой тэмы, расплюшчым вочы. Што азначае будаўніцтва шпіталя для псіхічна хворых без ахоўнай зоны (2 км)? Гэта значыць, што трэба будзе нам ставіць пікеты супраць збеглых псіхаў. Бо хто яшчэ акрамя нас саміх гарантуе нашу бяспеку!!?

А мо гэты шпіталь зусім і не шпіталь? Многія называюць яго «Дом адпачынку для Шарамета». Адчуваеце чым пахне?

**Дзед Мазай**

## Наркадылер з правінцыі

**Беларускія пенсіянеры не толькі вызначылі на выбарах лёс моладзі на бліжэйшыя пяць гадоў, але і кіруюць яе на шлях «няправедных». Іншым чынам нельга ахарактарызаваць дзеянні бабулькі, 1939 года нараджэння, жыхаркі вёскі Таневічы Шчучынскага раёна, у доме якой аператыўнікі выявілі і канфіскавалі тры кілаграмы 850 грамаў макавай саломкі.**

Безумоўна, не з добрага жыцця занялася бабуля наркотыкамі. Але ж нажыцца на маладых лёсах ёй не ўдалося.

**Павал Мажэйка**

## Як жыць будзем?

**Паводле дадзеных Цэнтрвыбаркама, 9-га верасня прэзідэнтам Беларусі другі раз яшчэ на пяць гадоў абраны Аляксандр Лукашэнка.**

**Як успрынялі гарадзенцы такі вынік прэзідэнцкіх выбараў і як уяўляюць яны сабе сваё жыццё ў бліжэйшыя пяць гадоў? З такімі пытаннямі ў чарговы раз ПАГОНЯ выйшла на вуліцы нашага горада.**



**Раіса Іванаўна**, пенсіянерка:

- Нармальныя вынікі. Я - за Лукашэнку. Я ўзрадавана. Будзем далей жыць, як зараз. А што можна зрабіць лепш? Пры Лукашэнку у нас заробак плацяць, хоць невялікі, але ўсё ж. У іншых рэспубліках яшчэ горш.



**Аляксандр**, бізнесмен:

- Вынікі выбараў былі прагназуемыя. Як жыць будзем - паглядзім. Але сумняваюся, што лепш.

**Вячаслаў**, інжынер:

- Выбралі таго, каго заслугоўваем. Не думаю, што жыццё стане лепшым. Але што зробіш? Будзем працаваць.



**Алег**, навучэнец політэхнічнага каледжа:

- Перайду ў апазіцыю, не буду падтрымліваць нашага так званага «бацьку». Няправільна зрабіў народ, што яго выбраў.



**Уладзімір Васільевіч**, кіроўца:

- Нармальныя выбары. У мяне ўся сям'я была за Лукашэнку. Як жылі, так і будзем жыць далей.



**Руслан**, вучыцца на юрыста:

- Вынікі выбараў ацэньваю станоўча. Я галасаваў толькі за Лукашэнку. У бліжэйшых маіх планах - стварыць сям'ю. Думаю, наш прэзідэнт нам дапаможа.



**Алена**, маладая маці:

- Я галасавала за іншага кандыдата. Таму, лічу, яшчэ пяць гадоў у нас ніякіх зменаў не будзе. Як жылі сем гадоў да выбараў, так і будзем.



**Таня**, студэнтка:

- Мае жыццёвыя планы на бліжэйшыя гады: скончыць вучобу і знайсці нармальную працу. А выбары? Думаю, гэтага варта было чакаць.

**Апытвала Алеся Сідлярэвіч**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



## Прарэктара падазраюць у хабарніцтве

**Прарэктар Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы Леанід Ківач арыштаваны па падазрэньні ў хабарніцтве. Падчас вобшуку ў ягонай кватэры ў пральнай машыне знайшлі 18 тысяч даляраў.**

Як патлумачыў начальнік адзьдзелу барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю й карупцыяй абласной пракуратуры Ўладзімер Сідо, справа была распачатая па заяве пацярпелай, якая дала Леаніду Ківачу хабар, але яе дзіця ва ўнівэрсытэт не паступіла.

Спадар Ківач у недалёкім мінулым быў рэктарам Гарадзенскага ўнівэрсытэту. Але яго звольнілі з гэтай пасады адразу пасьля таго, як ён прыватызаваў дом вядомага гарадзенскага мастака Пушкова, дзе плянавалася адчыніць музэй майстры.

## У суботу разыграюць кватэру

**22 верасня ўрэшце рэшт у Палацы культуры тэкстыльшчыкаў адбудзецца розыгрыш гарадзенскай латарэі «Гарадніца-1».**

Розыгрыш болей як двух тысячаў прызоў, сярод якіх кватэра і аўтамабіль «ВАЗ-21010», пачнецца ў 11 гадзін.

Кошты прызоў вагаюцца ад 3000 да 13 мільёнаў рублёў.

На сёньняшні дзень, продаж латарэйных білетаў не спынены, ад агульнай колькасці 100 тысячаў адзінак прададзена ўжо 98 тысячаў білетаў. Міхаіл Шыцікаў, намесьнік кіраўніка прадпрыемства «Гродналатарэя», запэўніў карэспандэнта ПАГОНІ, «што ніякага падману і падтасовак з розыгрышам латарэі «Гарадніца-1» не будзе.

Алесь Зарэмбюк

## Сальманела не здаецца

**18 верасня ў раённую Мастоўскую бальніцу быў шпіталізаваны футбаліст мастоўскага «Нёмана» Аляксандр Вярбіцкі. Прычына гэтаму - пагаршэньне стану здароўя Аляксандра, звязанае з кішэчным атручваньнем (сальманелёзам).**

Нагадаем, што два тыдні таму пасьля вячэры ў сталоўцы акцыянернага таварыства «Мастыдрэў» кішэчнае атручваньне атрымалі каля 40 чалавек. 22 выхаванцы дзіцячаюнацкай спартовай школы былі шпіталізаваныя ўжо на наступны дзень, 18 футбалістаў «Нёмана» знаходзіліся на амбулаторным лячэньні.

На сёньняшні дзень пасьля папраўкі ўсе дзеці са шпіталя выпісаныя.

Захар Штрэна

## «Сосны» зноў без лесьніка

**У панядзелак у Гродне не адбыўся 54-ы аўкцыён па продажу камунальнай маёмасьці горада. Прычына традыцыйная - не было ахвотных выдаць уласныя грошы на гарадзкія аб'екты. Па-ранейшаму застаецца без новага гаспадара будынак рэстарацыі «Сосны».**

Пачатковы кошт папулярнай у 80-я гады рэстарацыі склаў 44 мільёны 600 тысяч рублёў. Не знайшлося пакупнікоў і на кавярню «Бульбяная», што на вуліцы Камарова, за якую горад прасіў 151 з паловай мільёны. Узгаданыя будынкі знаходзяцца ў вельмі непрыглядным стане, і на іх капітальны рамонт уладальніку давядзецца выдаткаваць выкласьці значную суму. Апроч установаў грамадскага харчаваньня, на аўкцыён планавалася выставіць жылы будынак па вуліцы Свярдлова і два бульбасховішчы.

Павал Мажэйка

# Імідж - нішто... Малы бізнес - усё

**Тэлемастом паміж Менскам і абласнымі цэнтрамі адзначаў у мінулую пятніцу год сваёй працы Гарадзенскі прэс-клуб «Ініцыятыва». Эканамісты, чыноўнікі, журналісты і грамадскія дзеячы дыскутавалі на тэму «Роля СМІ ў стварэнні станоўчага іміджу беларускага бізнесу».**

З першых хвілінаў работы тэлемаста дэбаты сканцэнтраваліся вакол дзвюх тэмаў: «Інфармацыйная палітыка ў дачыненні да бізнесу з боку дзяржаўных і недзяржаўных СМІ» ды «Ацэнка існуючага іміджу беларускага бізнесу». Старшыня Гарадзенскага клуба прадпрымальнікаў Франц Мамуль заўважыў:

*- Калі будзе адкрытае абмеркаванне канцэпцыі эканамічнага развіцця, - тады не трэба будзе ствараць нейкі імідж. А калі малое прадпрымальніцтва не будзе развівацца, як гэта было апошні год, - пра які імідж можа ісці гаворка?*

Падчас рэспубліканскага маста склалася такое ўражанне, што прадстаўнікі эканамічных аддзелаў абласных выканкамаў гаварылі пра сваё, а грамадскія дзеячы - пра сваё. І агульнага паміж гэтымі двума, так бы мовіць, маналогамі, было мала. Старшыня камітэта па эканоміцы і рынкавых адносінах Гарадзенскага аблвыканкама Галіна Ляшчук пераконвала прысутных, што ў хуткім часе спросціцца работа па рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання. Яна паведаміла, што скароціцца колькасць ліцэнзаваных відаў дзейнасці, спросціцца сістэма падаткаабкладання.

Міністр прадпрымальніцтва ды інвестыцыяў Анатоль Скорбеж выказаўся даволі дэмакратычна:

*- Развіццё рынку немагчыма без сімпатыяў з боку спажыўца... Адсутнічае павага да працы прадпрымальніка. І пры гэтым чые фінансавыя магчымасці эксплатуюцца ў першую чаргу? Прадпрымальніцкія...*

На ўсё гэта прадстаўнікі бізнесу толькі скептычна хмыкалі: маўляў, вашыя словы ды Богу б у вушы.

Адразу прыходзіць думка, што самы час не апеляваць да пачуцця павагі да прадпрымальніцкай работы, а паспачуваць сіроцкаму лёсу прадпрымальніка ў нашай краіне.

Прысутныя ў гарадзенскай студыі сышліся на думцы, што штучнае стварэнне іміджу беларускаму бізнесу - як кашаль хваробе. Старшыня Фонда 'падтрымкі прадпрымальнікаў Галіна Кандыбовіч выказала думку, якая лунае ў паветры і якую не жадаюць прызнаваць чыноўнікі:

*- Дайце чалавеку працаваць, прыпыніце законатворчы «беспредел» - і надуманыя праблемы іміджу прадпрымальнікаў знікнуць.*

...На завяршэнне юбілейнага пасяджэння прэс-клуба «Ініцыятыва» канфрантуючыя бакі - бізнес і «вертыкаль» - сышліся за келіхам шампанскага на нефармальнай частцы сустрэчы. На фуршэце паток бясконцых дэбатаў аб іміджу беларускага бізнесу разбіўся на ручайкі больш прыемных і прадуктыўных размоваў.



У гарадзенцаў сваё ўяўленне пра малы бізнес

Алена Сіневіч

# Беларуская армія - самая мабільная!

**На мінулым тыдні ў эфіры Радыё Гродна была арганізавана «прамая лінія» з камандуючым 28-м армейскім корпусам, генерал-маёрам Анатолем Нікіціным. Гутарка тычылася ў асноўным сучаснага стану беларускага войска.**

Натуральна, што вядучая праграмы Надзея Сакалова пачала размову са згадкі пра нашумелыя манеўры «Нёман-2001», за якімі назіраў сам галоўнакамандуючы - прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Потым на БТ неаднаразова круцілі кадры прэзідэнцкага захаплення вынікамі манеўраў і паказвалі, як войска любіць свайго галоўнакамандуючага. Мабыць, таму Надзея Сакалова і генерал Анатоль Нікін зрабілі выснову, што беларуская армія - самая мабільная. Нават афіцэраў запасу прызвалі (упершыню за 12 гадоў!) на вучэнні.

Манеўры, паводле словаў генерала Нікіціна, прайшлі выдатна, нягледзячы на тое, што ў 50-й брыгадзе адзін жаўнер атрымаў траўму. Але затое пацярпелы быў узнагароджаны за свае старанні гадзіннікам ад міністра абароны Беларусі.

На самой справе радыёслухачоў не цікавіла ані мабільнасць, ані агнявая моц айчыннага войска. Пытанні, за рэдкім выключэннем, задаваліся вельмі прыземленыя, у асноўным побытавага характару. Пра харчаванне вайскоўцаў, абмундзіраванне, працу кантрактнікаў, скліканне на зборы афіцэраў запасу, фармальнасці пераводу з адной часткі ў другую...

Адпаведна словам генерала Нікіціна, 17 працэнтаў прызыўнікоў у корпусе маюць вышэйшую адукацыю, аднак трапляюцца і малаадукаваныя, калі не казаць, што зусім непісьменныя. Шмат прызыўнікоў сёння прыходзяць у войска фізічна неразвітымі з прычыны недаядання і выхавання ў дрэнных сацыяльных умовах. Аднак у падраздзяленнях 28-га армейскага корпуса кормяць добра, жаўнеры атрымліваюць неблагі паёк - 200 грамаў мясапрадуктаў і 850 грамаў хлеба. Увогуле, у армейскія сталоўкі сталі наймаць больш жанчын-кухарак, бо, як зазначыў генерал, жанчынам уласцівыя матчыны пачуцці.

Якраз у гэты момант патэлефанавала на радыё старшыня праўлення грамадскага аб'яднання Цэнтр міласэрнасці «Сям'я» Валянціна Радзівонцава і папрасіла генерала Нікіціна прысылаць жаўнераў, каб аказаць дзейсную дапамогу ў пабудове дзіцячага прытулка па вуліцы Лелявеля ў Гродне. Але камандуючы 28-м армейскім корпусам зазначыў, што ён не мае права нікога змушаць да падобнай працы. Інакш бацькі прызваных хлопцаў скажуць, маўляў, мы аддавалі сваіх сыноў не ў парабкі, а служыць Айчыне і аваладваць вайсковым майстэрствам. Нейкая дапамога (напрыклад, тэхнікай) Цэнтру «Сям'я», магчыма, будзе аказана.

Мне, як журналісту, давялося задаць генералу Нікіціну пытанне «геапалітычнага» характару:

- Як у кіраўніцтва 28-га армейскага корпуса, які дыслакуецца на тэрыторыі Гарадзенскай і Берасцейскай абласцей, складаюцца ўзаемаадносіны з калегамі з Польшчы і Літвы?

Камандуючы адказаў, што кантакты з замежнымі калегамі ёсць. У сакавіку гэтага года Гарадзеншчыну наведала польская вайсковая дэлегацыя, а 11-я брыгада корпусу нават правяла з палякамі тактычныя спаборніцтвы. Генерал Нікіцін з жалем зазначыў: «Шкада, канечне, што палякі ўступілі ў NATO». Пра Літву ён прамаўчаў.

Увогуле, з «мабільнасцю» беларускага войска давядзецца крыху пачакаць. Праблемы з абмундзіраваннем будуць вырашаныя (калі акажа абяцаную фінансавую дапамогу галоўнакамандуючы - прэзідэнт Лукашэнка) толькі ў наступным годзе. З выплатай вайсковых пенсіяў і заробкаў генерал абяцаў навесці парадак сам. З астатнімі пытаннямі можна да яго звяртацца ў Штаб арміі, што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы Леніна. Там генерал-маёр Анатоль Нікіцін будзе прымаць наведвальнікаў па асабістых пытаннях два разы на месяц.

Ігар Гандлеўскі

# Немцы мяркуюць, што беларусы будуць галасаваць нагамі

**З 17 па 21 верасня 2001 года візавы аддзел Амбасады ФРГ (па вуліцы Будзёнага, 10 у Менску) будзе зачынены. Гэта звязана з яго рэканструкцыяй у мэтах своечасовай апрацоўкі ўзрастаючай колькасці падаваемых заяваў.**

Напрыклад, у мінулым годзе Амбасадай ФРГ у Менску было выдадзена каля 110 тысяч візаў. Такім чынам, візавы аддзел у Менску з'яўляецца адным з трох наймагутнейшых візавых аддзелаў ФРГ у свеце (пасля Масквы і Кіева). У гэтым годзе ізноў бачыцца тэндэнцыя значнага росту пададзеных заяваў. Амбасада чакае, што ў 2001 годзе заяваў будзе пададзена на 25 працэнтаў болей за мінулы, што, у сваю чаргу, адлюстроўвае ўзрастанне інтэнсіўнасці міжчалавечых зносінаў паміж Беларуссю і Нямеччынай. Каб справіцца з адпаведнай колькасцю наведвальнікаў і гарантаваць усім зручны час апрацоўкі дакументаў, у Амбасадзе ФРГ і пайшлі на рэканструкцыю.

Ул. інф.

## Аншлаг на любоўныя гісторыі

**Чатыры дні - з 21 па 24 верасня - у Гродне гастралюе тэатральнае агенцтва са спектаклямі вядомага менскага рэжысёра Мікалая Пінігіна.**

У чацвер на сцэне абласнога драматычнага тэатра пройдзе камедыя «Чаравікі на тоўстай падэшве». Гэтая смешная п'еса расказвае пра тое, як старэючы муж заводзіць раман з маладзічкай і якія нечаканыя неверагодныя падзеі вынікаюць з гэтай любоўнай гісторыі. Пра перапеты рамантычнай гісторыі з італійцам замужняй бібліятэкаркі аматары тэатра даведаюцца з фарсу «Пізанская вежа» ў пятніцу. У суботу гастралёры з агенцтва «Альфа-канцэрт» і «Мікола-тэатра» запрашаюць дзяцей і дарослых на казку «Тэатральная машына». А ў апошні дзень гастроляў - нядзелю - гледачам прапануецца тое, што яны дагэтуль ніколі не бачылі - шчырую п'есу пра каханне, секс і адзіноту - любоўны трылер толькі для дарослых «Дотык».

Гарадзенцы яшчэ напачатку гэтага тыдня паказалі сябе заўзятымі тэатраламі. Ужо ў аўторак засталіся білеты на менскія спектаклі толькі на балкон, нягледзячы на даволі высокі кошт - ад 2,5 тысячы рублёў.

Алена Сіневіч

## Свята першай спробы

**16 верасня ў гістарычным календары бягучага года адзначаецца як 81-я гадавіна заснавання музея Адама Міцкевіча ў Наваградку. У самім музеі да гэтай даты паставіліся без спецыяльных святочных мерапрыемстваў.**

*- Мы лічым гэтую дату толькі першай спробай адкрыць у Наваградку музей Міцкевіча,* - патлумачыў ПАГОНІ Мікалай Гайда, дырэктар дома-музея. *16 верасня 1920 года Наваградскі рэўком выдаў загад аб стварэнні ў доме, дзе жыў Міцкевіч, музея. Аднак не прайшло і двух тыдняў, як у Наваградак увайшлі польскія войскі. Пайнавартасны музей Адама Міцкевіча быў адкрыты ў Наваградку ў 1938 годзе.*

Сёння ў музеі ідзе падрыхтоўка да 125-й гадавіны з дня народзінаў Яна Булгака, ураджэнца Наваградчыны, заснавальніка мастацкай фатаграфіі, прафесара Віленскага універсітэта. З гэтай нагоды на Наваградчыне пройдзе міжнародны фота-пленэр, арганізатарам якога з'яўляецца гарадскі аматар фатаграфіі Аляксандр Ласмінскі.

Шостага кастрычніка ў домемузеі Адама Міцкевіча адкрыецца выстава, прысвечаная Яну Булгаку.

## Раскапалі магілу

**Антычалавечы акт быў учынены днямі ў Слонімскім раёне. У лесе ля вёскі Жыровічы невядомыя раскапалі брацкую магілу часоў другой сусветнай вайны.**

Мясцовыя жыхары, якія апынуліся на месцы вайсковага помніка, убачылі мноства раскіданых касцей і чалавечых чарапоў.

На сёньняшні дзень следчыя пакуль не могуць назваць матываў, якімі кіраваліся вандалы.

Не выключана, злачынцаў маглі зацікавіць залатыя рэчы, альбо іншыя каштоўныя металы, што, як мяркуецца, знаходзіліся ў магіле.

Павал Мажэйка

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

### ТРАНСПАРТНЫЯ СРОДКІ, ЗАПЧАСТКІ

«Ford Escort» 1.4, бензін, 1987 г.вып. (па запчастках), 5-дзверны, 5-ступенчаты. Тэл. у Мастах: (8-215) 2-73-71 (пасля 17.00).

«Renault-21 1.7Б, 1990 г.вып. (на запчасткі). Тэл. у Слоніме: (8-029) 642-60-01.

«ГАЗ-51» (газ-бензін), у добрым стане. Кошт - 500 у.а. Тэл. у Мастах: (8-215) 2-12-74.

«Масквіч Комбі» на запчасткі. Тэл. 5-38-44.

«Масквіч-412» на запчасткі. Тэл. 5-93-67.

Запчасткі (б/у) да а/м «Mazda-626» 85-87 г.вып., рухавік да а/м «Toyota-Korola» 1,4 б 84 г.вып. Тэл. 33-82-74.

Матацыклы «ІЖ-10-4к», «Ява-250-6в» (можна на запчасткі), новы воз. Тэл. (8-214) 3-36-61.

Трактар «Т-40» у добрым стане. Тэл. у Шчучыне: 2-48-08.

### НЕРУХОМУЮ МАЁМАСЦЬ

Дом у маляўнічай мясціне на беразе возера Бершты, ёсць 40 сотак зямлі. Тэл. 31-94-21.

4-пакаёвы катэдж (112 кв.м) у 2 км ад г.Слоніма, з зямельным надзелам (альбо мяняю на гарадскі), ёсць прыродны газ, тэлефон, гараж. Побач - возера. Тэл. у Свіслачы: (8-213) 2-45-62.

Жылы дом з гаспадарчымі пабудовамі ды прысядзібным участкам (20 сотак) у прыгарадзе Свіслачы. Тэл. 2-27-43 (увечары).

Недабудаваную цагляную дачу ў раёне турбазы «Нёман», ёсць вада, святло, будматэрыялы. Тэрмінова. Нядорага. Тэл. 5-49-89.

Прыватызаваную блочную дачу з мансардай і добрым ураджаем (кошт - 989 у.а.), танна - кніжныя секцыі, стол-кнігу, жаночае дэмісезоннае паліто, жаночыя туфлі (36 памеру). Тэл. 44-45-16.

Новы 5-актаўны прагарамуемы сінтэзатар «Yamaha PSR-270» з Midi-сістэмай: 100 рытмаў, 238 мелодыяў, 90 функцыяў. Кошт - 300 у.а. Магчымы варыянты. Тэл. 93-91-43.

### ІНШАЕ

Акустычную сістэму «Клівер» 50АС-201. Кошт 20 у.а. Тэл. 5-76-65.

Гульнёвую прыстаўку «SEGA» 16 bit (кошт - 20 у.а.), б/у, і 12 картрыджаў (па 3.500 рублёў). Тэл.прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану), тэл.хатні 75-44-70 (пасля 19.00).

Прыхожую (б/у) у выдатным стане. Тэл. 5-18-55 (пасля 19.00).

Мяккую мэблю, два пуфікі, тумбачку пад тэлевізар. Усё новае. Тэл. 31-23-27 (пасля 17.00).

Новую падвесную паліцу для кніг. Тэл. 2-23-07.

Дзіцячы спартовы куточак (б/у). Нядорага. Тэл. 72-73-97.

Драўляныя вонкавыя і ўнутраныя дзверы (кошт - 40 у.а.), каляровы тэлевізар «Гарызонт-64» (б/у). Тэл. 72-90-96, 33-76-71.

Швачную машыну «Орша», «Singer», аверлок, ніткі. Тэл. 44-66-20.

Новую швачную машыну «Чайка», піяніна «Беларусь» (б/у, чорнага колеру), паўтарачны ложак (б/у). Тэл. 33-73-90.

Калекцыю савецкіх і расейскіх манетаў, спартовыя гантэлі, тры плафоны для электрычных лямпачак у санвузел, лекавы пояс ад астэахандрозу, макулатуру. Тэл. 6-69-65 (пасля 18.00).

Фотаапарат «Зеніт» ЕТ, «Элікон», залаты ланцужок. Тэл. 31-08-95.

Формы для вырабу тратуарнай пліткі «пол-брук» (800 адзінак). Танна. Тэл. у Беластоку: (4885) 743-46-57.

Металічную бочку ёмістасцю 330 метраў. Брызентавы чахол на аўтамабіль. Тэл. 31-98-61.

Новы электрабаян «Тапаз». Танна. Тэл. у Ваўкавыску: 7-03-42.

Кнігі ды часопісы ў выдатным стане з хатняй бібліятэкі. Вельмі танна. Пішыце на адрас: 210021, г.Віцебск, вул. Цітова, 121-15.

Тканіну на паліто і плашчы; мужчынскія касцюмы (п.48-50), мужчынскія плашчы. Тэл. 33-79-95.

Ванну (б/у), газавую пліту, пральную машыну (б/у). Тэл. 31-79-49, 33-12-92.

Ванну блакітнага колеру (даўжынёю 150 см), белы унітаз, ракавіну блакітнага колеру, газавую пліту «Брэст», чыгунную кухонную мойку. Усё б/у. Танна. Тэл. 72-70-60.

Байдарку, фотаапарат «Зеніт», свідравальны станок, электратачыла. Тэл. 2-38-20.

Чэкі «Жыллё» на суму 1920 рублёў. Тэл. у Мастах: 3-28-91 (з 9.00 да 17.00).

Паляўнічае ружжо і прыналежнасці да яго. Тэл. у Ваўкавыску: 2-29-23.

## КУПЛЮ

Пэйджар і мабільны тэлефон. Танна. Тэл. 39-98-55 (з 19.00 да 21.00, запрасіць Дзяніса).

Кампутар «Duron» альбо 15-дзюймовы манітор. Тэл.у Шчучыне: (8-214) 2-52-44.

Лабавое шкло да а/м «AUDI-80» 85 г.вып. Тэл. 76-33-17.

Дызельнае паліва. Тэл. 5-38-12.

Гантэлі, штангу. Тэл. 5-50-55 (аб.1377).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

## МЯНЯЮ

1-пакаёвую кватэру на 2-ім паверсе ў Віцебску на такую ж у Паставах або прадам. Тэл. у Паставах: 2-34-59.

2-пакаёвую прыватызаваную з усімі выгодамі кватэру ў г.Орша на гарадзенскую альбо ваўкавыскую. Тэл. у Оршы: 2-71-74.

## ПАСЛУГІ

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, ДК, тэлетэксту. Ліц.N1243, выдадзеная Міністэрствам прамысловасці РБ да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Распілоўка лесу. Піламатэрыялы пад заказ. Ліц. N003039, выдадзеная Міністэрствам лясной гаспадаркі да 11.05.2005 года. Тэл. 6-63-85; 5-89-04; 2-55-94.

Рэпетытарства, кантрольныя работы па матэматыцы і фізіцы. Тэл. 44-26-83.

Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 74-32-77.

Выконваю пераклады з рускай на польскую і з польскай на рускую мову. Тэл. 44-66-20.

Дапамагу па біялогіі ды хіміі. Тэл. 78-16-81.

Рэпетытарства (школьны курс), акрамя моваў. Тэл. 72-00-23 (пасля 17.00 - вахцёр), 44-34-79 (запрасіць Наталлю).

Рамонт камп'ютараў, манітораў, прынтараў. Ліц. N2004, выдадзеная Міністэрствам прамысловасці РБ да 2006. Безнаяўны разлік. Тэл. 72-16-47.

## РОЗНАЕ

Здыму 1-пакаёвую кватэру на першым паверсе пад кабінет. Нядорага. Тэл. 39-96-76 (да 9.00 і з 21.00).

Згублены студэнцкі білет N99-326 ГрДзУ імя Я.Купалы на імя Надзеі Аляксандраўны Сіваковай лічыць несапраўдным.

Здыму кватэру з тэлефонам не даражэй за 50 у.а. на працяглы тэрмін. Тэл. 6-67-65.

Студэнцкі білет за N501-99 на імя Андрэя Міраслававіча Лісоўскага лічыць несапраўдным.

Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне па вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Час працы: кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00.

Замаўляйце новы нумар газеты «Голас камбатанта». Лісты дасылайце на адрас: 220108, г.Менск, а/с 57 альбо на E-mail: Kambatant@yahoo.com

Грамадскае аб'яднанне аховы жывёлаў «Дабрыня» просіць аказаць дабрачынную дапамогу для ўтрымання бяздомных жывёлаў. Наш разліковы рахунак у Гарадзенскім ААТ «Белпрамбудбанк» - 301501629001, МРО 335 (код банка).

Прашу дапамагчы мне і маім дзецям. Наш адрас: 211910, Віцебская вобласць, пасёлак Шаркаўшчына, вуліца Горкага, 4-13.

Маю патрэбу ў дапамозе ў хатніх справах за бясплатнае пражыванне ў асобным пакоі. Тэл. 2-23-07.

Усе, хто мае інфармацыю пра эскадрылью «Нармандыя-Нёман», просім адгукнуцца на нумар тэл. 72-65-65.

Просьба да ахвотных перапісаць CD «Я нарадзіўся тут... Фотаальбом», CDZet «З Новым годам» - тэлефануйце на нумар 31-20-84.

Шукаю партнёраў у бізнесе. Тэл. 33-92-13 (з 8.00 да 10.00).

Збіраю любую інфармацыю пра антыкварыят. Тэл. 31-25-35 (аб.12196).

Дапамагу ў выкананні тынкавальных работаў. Тэл. у Ваўкавыску 4-33-20 (запрасіць Пятра).

Шукаю працу тынкоўшчыка на прадпрыемстве. Тэл. 31-03-49.

Здыму 1-, 2-пакаёвую кватэру. Тэл. (8-214) 3-61-05 (пасля 19.00), тэл. 72-37-14 (запрасіць Алесю).

Просьба да таго, хто знайшоў студэнцкі білет N97286 на імя О.А.Яраш, вярнуць яго за ўзнагароду. Тэл. 31-61-37.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).




Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.

Маю патрэбу ў ацэнцы (з мэтай продажу) нямецкага піяніна «Sponnagel» (G.Richter. Frankfurt a/o) 1900г. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану), тэл.хатні 75-44-70 (штодня, з 19.00).

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

## ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 26/190, пазнаёміцца з дзяўчынай для сур'ёзных адносінаў. Пішыце на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, п/д 0003645.

Мужчына, 28/185, жадае пазнаёміцца з жанчынай для сустрэчаў. Лісты дасылайце на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, п/д 5717723.

Мужчына, 33/170, пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230029, г.Гродна, паштовае аддзяленне N29, п/п КНО513253.

Мужчына, 44/170, жадае пазнаёміцца з прыемнай жанчынай для сустрэчаў. Пішыце на адрас: 230009, г.Гродна, паштовае аддзяленне N9, а/с 105.

Мужчына, 38/176, жадае пазнаёміцца з жанчынай для прыемных сустрэчаў. 230025, г.Гродна, Галоўпаштамп, п/п КНО521735.

Мужчына творчай спецыяльнасці, 43/178/75, пазнаёміцца з жанчынай для сяброўскіх сустрэчаў. Магчымы шлюб. Чакаю лісты на адрас: 231900, г.Ваўкавыск-6, а/с 9.

## ВІНШАВАННІ

Віншуем нашу любімую *графічку Ірку* з Днём з'яўлення на свет! Удачы табе ў змаганні з менскімі акадэмікамі! Не забывайся на Гародню. Ведай, цябе тут чакаюць!

Алеся і Паўлік

## Памежнікі не спяць

**Сто сорак бурштынавых кулонаў і дзевяноста брошак у срэбранай аправе былі выяўленыя днямі на станцыі Гудагай у цягніку N30 «Калінінград-Масква» памежнікамі Смаргонскага памежнага атрада. Сума выяўленых каштоўнасцяў склала 2 мільёны 330 тысяч рублёў.**

Як паведаміла ПАГОНІ камандаванне Смаргонскім памежным атрадам, «кантрабанда была выяўленая памежнікамі ў вагоне-рэстаране расейскага цягніка. Ювелірныя вырабы з бурштыну былі схаваныя ў міжстолевай прасторы непрацуючага тамбура гэтага вагона».

Увогуле за бягучы год памежнікамі Смаргонскага памежнага атрада было папярэджана 58 выпадкаў перамяшчэння матэрыяльных каштоўнасцяў праз дзяржаўную мяжу.

**Алесь Зарэмбюк**

## Удакладненні

**У ПАГОНІ N35 ад 30 жніўня 2001 года ў артыкуле «Таможня бярэ дабро», дзе ішла размова пра распачынанне крымінальнай справы супраць работнікаў ветэрынарнага пункту памежнага пераходу «Брузгі», па віне рэдакцыі была памылкова ўказана прыналежнасць ветпункту да мытні.**

**Супрацоўнікі ветпункту хоць і працуюць з мытнікамі на адным пераходзе, аднак ніякага дачынення да мытні не маюць. У сувязі з недакладнай інфармацыяй прыносім чытачам ПАГОНІ свае прабачэнні.**

* * *

**Пасля надрукаванага ў нашай газеце артыкула Дзяніса Курчэўскага «Гарадзенская ўлада не заўважае цяжкасцяў «Алімпіі», аўтар меў шэраг размоваў з кампетэнтнымі асобамі - якія маюць адносіны да каманды.**

**Яны пераканалі аўтара ў тым, што ў цытаце «Здараецца так, што на фоне 1000-1500-х даляравых кантрактаў баскетбалістаў «Гродна-93».., ПАГОНЯ надрукавала няправільныя лічбы кантрактаў нашых баскетбалістаў.**

**У якасці аргументу на карысць гэтага сцвярджэння было патлумачана, што ў нашай краіне пра заробкі спартоўцаў лепш не паведамляць!..**




SVILS-SOFT
Кантактныя лінзы
кансультацыі па хваробах вачэй
ААТ "СІЛСОФТ"
Беларусь, г. Гродна
вул. Ажэшкі, д. 1
тэл. 44-92-15

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

38 Імя і прозвішча ______

Адрас (тэлефон) ______

Рубрыка ______

Тэкст ______

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

**Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам.**

АБ'ЕКТЫЎНА ПРА РЭАЛЬНАЕ
RR
РАДЫЁ РАЦЫЯ
НА СЯРЭДНІХ ХВАЛЯХ
1080 кГц (490 м) 22:00-24:00
612 кГц (490 м) 07:00-11:00
НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ
6035 кГц (49 м) 07:00-09:00
6180 кГц (49 м) 13:00-15:00
6010 кГц (49 м) 21:00-23:00
WWW.RACYJA.PL
220102, Менск, а/с 144

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Анатоль Варывончык: «Мы падрыхтаваныя на 90%»

22-23 верасня сустрэчамі з чэмпіёнам Усходне-Еўрапейскай Хакейнай Лігі кіеўскім «Беркутам» хакеісты гарадзенскага «Нёмана» распачнуць хатнія гульні сёлетняга першынства. Дагэтуль нашыя землякі ў Кіеве падзялілі ачкі з «Сокалам» 4:2 (у «Нёмана» адзначыліся Смірноў і Пячонкін) і 1:5 (Нічыухін, Галаванаў, Сідараў і Дзееў - двойчы). А старт у чэмпіянаце Беларусі чэмпіён пачаў з упэўненай перамогі над дэбютантам «Брэстам» - 3:0 (Лісічкін, Галаванаў, Дубень). Пасля гэтых гульняў карэспандэнт ПАГОНІ узяў эксклюзіўнае інтэрв'ю ў галоўнага трэнера нашай каманды Анатоля Варывончыка.



Анатоль Варывончык

*- Анатоль Міхайлавіч, як Вы можаце пракаментаваць першыя гульні «Нёмана» ў чэмпіянаце УЕХЛ?*

- Гульні з «Сокалам» былі рознымі. У першай мы нарабілі шмат уласных памылак, чым і скарыстаўся супернік. У другой гульні такога не было, і мы заслужана перамаглі з лікам 5:1. Апошняя гульня ўзрадавала мяне самаададачай нашых хакеістаў і рэалізацыяй момантаў.

*- Якія задачы пастаўленыя перад камандай у гэтым сезоне?*

- У чэмпіянаце Беларусі ў нас ніякай задачы, акрамя як захаваць за сабой чэмпіёнскае званне, і быць не можа. У чэмпіянаце Усходне-Еўрапейскай Хакейнай Лігі будзем спрачацца за прызавыя месцы. Аднак сезон доўгі. Усё будзе вырашацца ўвесну, калі будуць праходзіць гульні плэй-оф у чэмпіянатах Беларусі і УЕХЛ. Зараз мы падрыхтаваныя працэнтаў на 90. Астатнія 10 направуем ужо па ходу чэмпіянатаў. У мяне не выклікае сумневу добрая фізічная форма нашых хакеістаў. Таму што падрыхтоўчы працэс хакеісты адпрацавалі вельмі добра. Усё, што было намі запланавана, мы зрабілі.

*- Наколькі рэальна дасягнуць пастаўленых задачаў?*

- Наколькі рэальна? Калі ў мінулым годзе выканалі задачу - значыць, павінны і ў гэтым яе выконваць. Галоўнае, каб фінансавае становішча было на ўзроўні.

*- З фінансамі ў вас, відаць, як і ў шматлікіх спартовых камандаў Гарадзеншчыны, існуюць пэўныя складанасці?*

- На дадзены момант фінансы ў камандзе ёсць, якіх добра калі хопіць да новага года. З гэтага года фінансавацца будзе і «Нёман-2». Так што, ці зможам выцягнуць дзве каманды, пакуль адказаць цяжка.

*- Ведаю, што існавалі ў вас сур'ёзныя праблемы і з тэхнічным забеспячэннем.*

- Я мяркую, у хуткім часе ўсе пытанні па тэхнічнаму забеспячэнню здымуцца. Праблемаў не можа не быць.

*- Як можна супаставіць страты «Нёмана» ў міжсезонні з набыткамі? Вядома ж, што Гродна пакінулі адныя з лепшых гульцоў: Малашкевіч, Аляксееў, Цецераў, Вярбіцкі.*

- Галоўная наша страта - Алег Малашкевіч. Хакеіст шукае месца там, дзе яму лепш. Алегу прапанавалі ў Гомелі больш выгадныя ўмовы кантракту, як і Аляксееву ў Расеі. Скажу шчыра, з усіх сезонаў, праведзеных брамнікам Канстанцінам Аляксеевым у «Нёмане», можна вылучыць першы. Ва ўсіх астатніх ён гуляў няроўна. На яго месца мы ўзялі Аронаса Алейнікаваса, і дзве гульні «Нёмана» з «Сокалам» паказалі, што майстэрства яго не ніжэй, чым у Аляксеева. Цецераў і Вярбіцкі вярнуліся ў Менск. Таму што яны самі адтуль. Мой сын Павал вырашыў, што ўзровень нашай каманды ён перарос і хоча пагуляць за межамі краіны. Аднак да першага студзеня кожнай камандзе можна заяўляць новых хакеістаў. Таму на трансферным рынку праца працягваецца. Разлічваю на дапамогу Юрыя Чуха. Ён у асобных момантах дзейнічае проста выдатна. Андрэй Бузыроў - дасведчаны абаронца. Мне падаецца, што ў пары з Коршунам яны складуць добры дуэт.

*- Якія пазіцыі яшчэ патрабуюць узмацненняў?*

- Двума-трыма хакеістамі неабходна ўзмацніць абаронную лінію. Не дрэнна было б запрасіць і парачку добрых нападнікаў, асабліва цэнтральных.

*- Гэта будзе мясцовая таленавітая моладзь з Гарадзенскай дзіцяча-юнацкай спартовай школы?*

- Узмацненне галоўнай каманды бліжэйшым часам бачу толькі хлопцамі 85-86 гадоў нараджэння, якія ў гэтым годзе будуць гуляць у групе «Б» Усходне-Еўрапейскай Хакейнай Лігі.

**Гутарыў**
**Дзяніс Курчэўскі**

**P.S.:Чэмпіянат Беларусі «Гомель» - «Нёман» -4:2**

# «Нёман» замыкае тройку

**Чэмпіянат Беларусі. Вышэйшая ліга. 18-ы тур**
**«Нёман-Белкард» - «Ведрыч-97» - 2:0 (Тарашчык 53, Давыдаў 68 - п.)**
**Чэмпіянат дублёраў**
**«Нёман-2» - «Ведрыч-2» - 1:2 (Вярстак)**



Чым бліжэй да фінішу чэмпіянату Беларусі па футболе, тым каштоўней становіцца кожнае страчанае ачко, асабліва для камандаў, якія вядуць барацьбу за ўзнагароды.

Калі «Нёман-Белкард» упершыню ў нацыянальным першынстве спрабуе зачапіцца за бронзу, то «Ведрыч-97» - застацца ў вышэйшым дывізіёне.

Памятаючы пра буйную перамогу ў першым крузе (1:5), гарадзенцы, відаць, ужо да гульні залічылі сабе тры ачкі. Аднак майстэрства футбалістаў «Нёмана» не настолькі высокае, каб на класе атрымліваць перамогі. Як адзначыў пасля гульні галоўны трэнер «Нёмана» Сяргей Саладоўнікаў, першы тайм у выкананні «Нёмана» быў горшым у сезоне.

Пасля мужчынскай размовы ў перапынку паміж таймамі гарадзенскага «коўча» са сваімі футбалістамі гульня ў другім тайме стала цікавейшай.

Усё дзякуючы выдатным дзеянням Віталя Тарашчыка, які дзейнічаў у гэтай сустрэчы на нязвыклай для сябе пазіцыі нападніка. Менавіта Віталь на 53-й хвіліне эфектнымі «нажніцамі» адкрыў лік, а праз 15 хвілінаў Тарашчык зарабіў пенальці, якое рэалізаваў лепшы снайпер «Нёмана» і чэмпіянату Сяргей Давыдаў.

**22 верасня** «Лакаматыў-96» (Віцебск) - «Нёман-Белкард».

**Пяцёрка лепшых бамбардзіраў:**

С.Давыдаў - 16 мячоў
В.Кутузаў (БАТЭ) - 14
В.Стрыпейкіс (Славія) - 10
П.Качура (Дынама Мн) - 8
І.Чумачэнка (Дынама Мн) - 8

**Турнірная табліца**

| | Г | П | Н | П | А |
|---|---|---|---|---|---|
| Белшына | 18 | 13 | 3 | 2 | 42 |
| БАТЭ | 18 | 13 | 2 | 3 | 41 |
| **Нёман** | **18** | **10** | **5** | **3** | **35** |
| Славія | 18 | 10 | 3 | 5 | 33 |
| Дынама (Менск) | 18 | 9 | 4 | 5 | 31 |
| Тарпеда-МАЗ | 18 | 9 | 4 | 5 | 31 |

# Засталося купіць паркет

**Сёння, 20 верасня, чэмпіёны краіны, баскетбалісты «Гродна-93», ад'язджаюць у Аліттус. У Літве нашыя баскетбалісты прабудуць да нядзелі і згуляюць тры таварыскія гульні з камандамі з Таліна, Нарчопінга і мясцовым «Алітусам». Гэтыя сустрэчы стануць апошнім сур'ёзным выпрабаваннем гарадзенскіх баскетбалістаў перад дэбютам (7-9 кастрычніка) у Паўночна-Еўрапейскай Баскетбольнай Лізе.**

Трыма днямі раней наша каманда вярнулася з Менска, дзе праходзіў першы этап Кубку Беларусі. 100-працэнтны вынік у чатырох сустрэчах вывеў гарадзенцаў у фінальную частку, якая пройдзе 29-30 верасня ў Гродне.

Да Кубку Беларусі гарадзенцы папоўнілі сваю, і без таго вялікую, калекцыю ўзнагародаў яшчэ адным цудоўным кубкам. З рук віцэ-прэзідэнта Варшавы Войцеха Козака за перамогу ў вырашальнай гульні з прадстаўніком польскай «Sapra Ligi» варшаўскай «Легіяй» (77:70) нашыя баскетбалісты атрымалі кубак «Беймова 2001». Напярэдадні гэтага «93-я» ў турніры перамаглі польскія каманды першай лігі «Полфарма» (Старогард Гданьскі) 96:82 і «Котвіцу» (Колобжэк) - 84:80.

Урэшце рэшт падпісалі кантракты з нашым клубам літоўскі разыгрывающчы Эльгеркус Кавалюнас і цэнтравы Кірыл Місючэнка. Трэніруюцца разам з нашай камандай Арсеній Кучынскі і суайчыннік Кавалюнаса цэнтравы (208 см) Томас Венскус. Пытанне наконт падпісання з імі кантрактаў будзе вырашана пасля літоўскага турнэ «Гродна-93».

Тым часам, чым менш застаецца часу да сёмага чысла, тым вастрэй паўстае пытанне аб набыцці сучаснага баскетбольнага паркету для нашай каманды. Аднак правету ў гэтай справе пакуль не бачна. Праца па рамонту пакояў гатэля «Беларусь» і абсталявання іх мэбляй, адпаведна словам кіраўніка трэста гатэльнай гаспадаркі Анатоля Фядосава, ужо распачалася.

# У дзесяці чэмпіянатах – дваццаць узнагародаў

**Флагман беларускага жаночага хакея на траве гарадзенскі «Рытм» атрымаў дзесятую перамогу ў 10-м чэмпіянаце Беларусі. Гэта стала вядома пасля праведзенага чацвёртага туру (пяты з фінансавых прычынаў не адбудзецца).Вікторыю святкавалі нашыя дзяўчаты і ў Кубку Беларусі, які праходзіў адначасова з чацвёртым турам чэмпіянату. Перамога ў Кубку для гарадзенак таксама была дзесятай.**

Як і першыя тры туры, чацвёрты «Рытм» прайшоў без паразаў. Больш таго, наша каманда не прапускае галоў ужо на працягу двух апошніх тураў. Так, у першай гульні чэмпіёнкі перамаглі гарадзенак з «РВАРа» з лікам 9:0, потым была перамога над «Лянком» (Орша) - 7:0, «Вікторыяй» - 10:0, «Тэкстыльшчыкам» (Баранавічы) - 8:0 і «ДзЮСШ» (Бабруйск) - 5:0.

Следам за «Рытмам» упершыню ў сваёй гісторыі на п'едэстал мелі магчымасць узняцца хакеісткі гарадзенскага «РВАРа». Аднак толькі на лепшай розніцы закінутых і прапушчаных галоў гарадзенак апярэдзіў «Тэкстыльшчык».

Наконт гэтага галоўны трэнер «Рытма» **Ніна Дашко**, каментуючы вынік чэмпіянату, пажартавала:

*- Каб мы ведалі, што гарадзенкам давядзецца падлічваць колькасць закінутых і прапушчаных галоў, тады мы закінулі б ім менш. Што датычыцца нашай каманды. Нам цяжка павышаць спартовае майстэрства ў нацыянальным першынстве. Выйсце з гэтага становішча бачу ва ўдзеле нашай каманды ў чэмпіянаце Расеі. Але адсутнасць фінансавых сродкаў перакрэслівае ўсе перспектывы. Аднак, трэба адзначыць, што ўзровень камандаў беларускага чэмпіянату крыху падраўняўся.*

Што ж, шкада, што гарадзенская ўлада і наогул наша краіна не зацікаўленыя ў развіцці жаночага хакея на траве. Бо, відавочна, «Рытм» даўно перарос «штонікі» нацыянальнага першынства, і каб не рэгрэсіраваць, камандзе неабходна гуляць у значна больш моцным чэмпіянаце. Гэта ж даказалі і апошнія таварыскія гульні «Рытму» со зборнымі Літвы і Расеі, якія рыхтуюцца да чэмпіянату свету. З расіянкамі гарадзенскі тройчы разышліся мірам - 2:2, 0:0, 2:2, а ў гульнях з прыбалткамі атрымалі перамогу (2:1) і прайгралі з лікам 1:3.

**Падрыхтаваў**
**Дзяніс Курчэўскі**

## Каляндар гульняў «Нёмана» ў чэмпіянаце Беларусі

1 кастрычніка (панядзелак) **«Хімвалакно»** (Магілёў)

1 лістапада (чацвер) **«Віцебск»**

9 лістапада (пятніца) **«Палімір»** (Наваполацк)

5 снежня (серада) **«Гомель»**

1 студзеня 2002 года (панядзелак) **«Керамін - Менск»**

1 студзеня (серада) СДзЮШАР **«Юнацтва»** (Менск)

**Гульні на выездзе**

27 верасня (чацвер) СДзЮШАР **«Юнацтва»**

5 лістапада (панядзелак) **«Керамін - Менск»**

25 снежня (аўторак) **«Брэст»**

29 снежня (серада) **«Хімвалакно»**

8 лютага (пятніца) 2002 года **«Віцебск»**

10 лютага (нядзеля) **«Палімір»**




ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб`яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 19.09.2001 г. Замова 2 630 Наклад 8 132

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб`ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Кампутарны набор: Ірына Салей
Кампутарная вёрстка: Аляксей Салей

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013